ВЯДОМЫ БЕЛАРУСКІ ПРАВААБАРОНЦА АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ:
У БЯДЗЕ ЎКРАІНЦАЎ БЕЛАРУСКІ РЭЖЫМ ШУКАЕ ВЫГАДУ



СТАР. 2

весніК ПРАВАБАРОНЧЫ

№ 8 [28] 2014 / 08

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЦА СЯРГЕЙ ГОЎША
ДАМАГАЕЦЦА КАНКРЭТЫКІ АД ГАРВЫКАНКАМА



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ГРАМАДСТВА

# МЕНСКІМ УЛАДАМ ПЕРАДАЛІ 100 ТЫСЯЧ ПОДПІСАЎ ЗА ВУЛІЦУ БЫКАВА

Актывістка кампаніі «Гавары праўду» Таццяна Караткевіч разам з пісьменьнікам Уладзімерам Арловым перадалі кіраўніку Менскага гарсавета 100 000 подпісаў за вуліцу імя Васіля Быкава ў Менску.

Паводле Таццяны Караткевіч, больш за сто тысяч жыхароў Менску выказаліся за тое, каб адна з вуліцаў горада стала вуліцай імя Васіля Быкава і 36 тысяч выказаліся за тое, каб адна са станцыяў мэтро мела такую ж назву.



Пісьменнік Васіль Быкаў

Бібліятэцы гарсавета актывісты падарылі апошнія выданьні Быкава «Мёртвым не баліць» і «Ліквідацыя».

«Мінулы склад Менскага гарсавета не адважыўся прыняць рашэньне на карысьць Васіля Быкава, паспрабуем з гэтым. Мы не пакідаем справаў, якімі займаемся і якія даверылі нам грамадзяне. І верым, што ў Менску будзе і вуліца Быкава, і помнік Быкаву», — напісаў у фэйсбуку Андрэй Дзьмітрыеў.

У 2010 годзе актывісты кампаніі «Гавары праўду» зьвярталіся ў Менгарвыканкам зь ініцыятывай даць адной з вуліцаў гораду імя Васіля Быкава.

spring96.org

УКРАІНА

## У КІЕВЕ ЛІЧАЦЬ, ШТО РАСІЯ НАПАЛА, КАБ САРВАЦЬ ВЫБАРЫ

**Намеснік старшыні Вярхоўнай Рады Руслан Кашулінскі ўпэўнены, што больш у выбарах не зацікаўленая Расія, якая спрабуе перашкодзіць ваеннай агрэсіяй.**

Як перадае УНІАН, пра гэта ён сказаў 28 жніўня падчас брыфінгу. «Пацвярджаецца меркаванне аб тым, каму найбольш невыгодныя перавыбары Вярхоўнай Рады - гэта Расійская Федэрацыя», - сказаў віцэ-спікер і дадаў, што з пачаткам выбарчага працэсу адбылася і актывізацыя ваенных дзеянняў з боку Расіі. Кашулінскі выказаў перакананне, што Расія будзе імкнуцца зрабіць усё, каб пакінуць ВР у тым складзе, у якім яна ёсць цяпер, улічваючы тое, што ў 2012 годзе фракцыя Партыі рэгіёнаў налічвала 208 членаў, а КПУ - 33.

«241 з 450. Гэта большасць, якое прызнаў свет на выбарах 2012 года. Зараз яны гэта ўмеюць лічыць і лічаць, што ў Вярхоўнай Радзе ў такім складзе яны змогуць дыктаваць свае ўмовы», - сказаў віцэ-спікер і дадаў, што цяпер у ВР надзвычай высокі ўзровень лабістаў Расійскай Федэрацыі. Кашулінскі лічыць, што для зрыву перавыбараў «сёння ідуць максімальна актыўныя ваенныя дзеянні з боку Расійскай Федэрацыі».




Намеснік старшыні Вярхоўнай Рады Украіны Руслан Кашулінскі

spring96.org

## Постпред США в ООН: Маски сброшены - Россия научила, вооружила и затем присоединилась к террористам на Востоке Украины

*Об этом заявила во время своего выступления на экстренном заседании Совета безопасности ООН постоянный представитель США в ООН Саманта Пауэр, передает Цензор.НЕТ со ссылкой на Еспресо.TV·*

censor.net.ua

## Россия впервые признала, что на Донбассе воюют россияне: «Этого никто не скрывает»

Чуркин спустя десятки заседаний ООН признал, что на Донбассе воюют россияне. На сегодняшнем заседании ООН постпред России преподнес участие российских добровольцев как очевидный факт. Представитель РФ в организации Виталий Чуркин сообщил, что никто не скрывает участие российских граждан в конфликте

Постоянный представитель Российской Федерации в ООН Виталий Чуркин подтвердил, что на Донбассе воюют граждане России. Об этом он рассказал во время заседания Совета Безопасности ООН в четверг, 28 августа, передает Цензор.НЕТ со ссылкой на zn.ua.

«Всем известно, что на Востоке Украины есть российские добровольцы. Этого никто не скрывает. Хотелось бы, чтобы аналогичную транспарентность проявили и некоторые другие страны. Пусть наши американские коллеги расскажут, чем занимаются в здании СНБО десятки американских советников. Пусть расскажут, сколько американских наемников из так называемых охранных предприятий воюют в тысячах километров от своих берегов», - непринужденно подчеркнул он.

Также Чуркин заявил о якобы очередных договоренностях между министерствами иностранных дел России и Украины об отправке нового гуманитарного груза в Восточную Украину.

В заключении речи постпред России предложил на «этом же заседании» незамедлительно принять новую резолюцию ООН о прекращении огня в Восточной Украине. В спешке документ, разумеется, принят не был.

Напомним, по просьбе Украины сегодня было созвано экстренное заседание Совбеза ООН из-за военного российского вторжения на ее территорию.

censor.net.ua

## Брэсцкі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу Мікалая Чарнавуса



27 жніўня, суддзя Брэсцкага абласнога суда Наталля Сурма не задаволіла касацыйную скаргу грамадскага актывіста Мікалая Чарнавуса на пастанову суддзі суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы ад 21 ліпеня, па якой індывідуальны прадпрымальнік прызнаваўся вінаватым ў парушэнні артыкула 23.34 ч.3 КаАП – арганізацыя і правядзенне 1 ліпеня несанкцыянаванага сходу прадпрымальнікаў на мясцовым кааператыўным рынку.

– Усё ж я спадзяваўся, што абласны суд аб'ектыўна разбярэцца ў маёй адміністрацыйнай справе. Але якая можа быць аб'ектыўнасць, калі суд цягнецца ўсяго некалькі хвілін. Абласны суд, дарэчы, як і суд першай інстанцыі, зусім ігнаруе той факт, што мне так і не далі магчымасці азнаёміцца з адміністрацыйным пратаколам. Суд не звяртае нават увагі на тое, што больш за 100 прадпрымальнікаў падпісаліся, што яны самі арганізаваліся 1 ліпеня, і што з трох сведкаў, пазначаных ў гэтым пратаколе, ніхто так і не падцвердзіў, што менавіта я быў арганізатарам несанкцыянаванага мерапрыемства. Таму я катэгарычна не згодны з такім рашэннем абласнога суда і буду звяртацца ў вышэйстаячыя органы судовай ўлады за пошукамі праўды і справядлівасці, – пракаментаваў Мікалай Чарнавус.

Вітусь Свабодскі

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: БЕЛАРУСКІ РЭЖЫМ ШУКАЕ ВЫГАДУ Ў БЯДЗЕ ЎКРАІНЦАЎ

Напярэдадні сустрэчы Пятра Парашэнкі, кіраўніцтва МС і ЕС у Мінску ўлады правялі арышты актывістаў апазіцыі: актывіста «Маладога Фронту» Зміцера Крамянецкага міліцыянты забралі проста з дому, а актывіста «Змены» Паўла Вінаградава абвінавацілі ў дробным хуліганстве і пасадзілі на 10 сутак.

Вядомы беларускі праваабаронца, былы палітвязень Алесь Бяляцкі сказаў рэдакцыі сайта charter97.org, што гэтыя арышты ярка прадэманстравалі, што «хапальныя рэфлексы» рэжыму спрацоўваюць нават на вачах у прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці Еўрасаюза, а Лукашэнка бессаромна выкарыстоўвае няпростую сітуацыю ва Украіне толькі дзеля ўласнай выгады: для паляпшэння сваёй пазіцыі на міжнароднай арэне.

- Фон гэтай сустрэчы быў афарбаваны ў старыя колеры - адбыліся затрыманні грамадзянскіх актывістаў. Гэта, вядома, вельмі негатыўна. Гэтыя затрыманні яшчэ раз паказваюць, што ў Беларусі нават падчас прыезду высокіх чыноўнікаў Еўрасаюза ўлады не збіраюцца нічога змяняць да лепшага хоць бы для выгляду. Па вялікім рахунку, гэтыя затрыманні не мелі ніякага сэнсу. Відавочна, што, затрымаўшы некалькі чалавек, улады карэнным чынам нічога не змянілі, але гэты «хапальны рэфлекс» падчас нейкіх сур'ёзных мерапрыемстваў у Мінску, як ні дзіўна, спрацаваў і падчас прыезду прадстаўнікоў еўрапейскага дэмакратычнага грамадства.

- Чаму Мінск - не лепшае месца для перамоваў паміж Расіяй і Украінай?

- Арышты апазіцыі выклікаюць пэўнае расчараванне і скептыцызм да месца правядзення гэтай сустрэчы. Прычым гэта падкрэслівае той факт, што месца правядзення сустрэчы было абрана не вельмі ўдала і Беларусь не можа выконваць функцыю нейтральнай краіны. Існуюць і іншыя важныя прычыны. Перш за ўсё, гэта палітычная залежнасць беларускага рэжыму ад расійскіх уладаў, і казаць пра нейкую нейтральнасць беларускіх уладаў абсалютна не выпадае. Усё кажа аб тым, што яны з'яўляюцца марыянеткамі ў руках Крамля і выконваюць пэўную функцыю, якую ім Крэмль вылучыў у гэтым драматычным і трагічным спектаклі, які зараз адбываецца.

- Якую выгаду шукаў Лукашэнка, узяўшы на сябе гэтую ролю «міратворца» у рэгіёне?

- Мне горка было бачыць, як гэтая сітуацыя была скарыстаная беларускімі ўладамі на сваю карысць, без усялякіх зменаў і без усякіх паляпшэнняў унутранага



становішча ў краіне. На жаль, з гэтым даволі няхітрым, але ў той жа самы час відавочна прадуманым ходам з боку беларускіх уладаў пагадзіліся і чыноўнікі Еўрасаюза, і кіраўніцтва Украіны. Нічога ў Беларусі не сведчыць пра тое, што сітуацыя з дэмакратыяй, з правамі чалавека, з нейтральнасцю, з аб'ектыўнасцю Беларусі падчас міжнародных канфліктаў палепшылася.

- Некаторыя ўкраінскія эксперты лічылі, што няма нічога дрэннага ў правядзенні дыпламатычных сустрэч з удзелам Парашэнкі ў Мінску. Дзе, на вашу думку, павінна была прайсці падобная сустрэча?

- Мне здаецца, гэта недальнабачная палітыка Украіны ў дачыненні да рэжыму Лукашэнкі. У свеце хапае сапраўды нейтральных дзяржаў, з ходу я магу назваць Швейцарыю, якая ўжо стагоддзямі выконвае функцыю перамоўнай пляцоўкі для правядзення падобных сустрэч. І мне здаецца, што беларускія ўлады выкарыстоўвалі гэтую сітуацыю, не змяняючы сваёй аўтарытарнай пазіцыі, каб палепшыць сваю пазіцыю на міжнароднай арэне.

Нагадаем, 24 лістапада 2011 суд прызнаў Алеся Бяляцкага вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры і прыгаварыў да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Падставай для крымінальнага пераследу Бяляцкага стала наяўнасць у яго рахункаў у банках Літвы і Польшчы. Суд не ўлічыў, што паступаючыя на іх грошы выкарыстоўваліся для праваабарончай дзейнасці, а адкрыць рахункі ў Беларусі немагчыма, бо «Вясна» працуе нелегальна. Улады неаднаразова адмаўлялі ў афіцыйнай рэгістрацыі арганізацыі.

Праваабаронцу вызвалілі па амністыі 21 чэрвеня 2014 г. пасля амаль трох гадоў у папраўчай калоніі. Тры гады запар Бяляцкі вылучаўся прэтэндэнтам на Нобелеўскую прэмію міру, а таксама ён афіцыйна быў прызнаны вязнем сумлення.

spring96.org

СВАБОДА СХОДАЎ

# ПРАВААБАРОНЦА ДАМАГАЕЦЦА КАНКРЭТЫКІ АД ГАРВЫКАНКАМА

Праваабаронца Сяргей Гоўша накіраваў 7 жніўня заяву на імя старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Юрыя Грамакоўскага, у якой патрабуе тлумачэнняў, на якой падставе быў забаронены пікет, які планавалі правесці 27 ліпеня Сяргей Гоўша, Вячаслаў Болбат і Рыгор Грык. У адказе гарвыканкама № 01-15/05/1 ад 14.07.2014г. адзначаецца, што арганізатары масавага мерапрыемства не выканалі патрабаванняў артыкула 5 Закона РБ ад 30 снежня 1997г. № 114-З "Аб масавых мерапрыемствах у РБ" (у рэд. Закона РБ ад 08.11.2011г. № 308-З) і пункта 4 рашэння Баранавіцкага гарадскога выканаўчага камітэта ад 16 чэрвеня 2009г. № 1497 "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у г.Баранавічы" (у рэдакцыі рашэння Баранавіцкага гарадскога выканаўчага камітэта ад 05.10.2009г. № 2497).



У сваёй заяве праваабаронца адзначае, што гэта стандартны адказ Баранавіцкага гарвыканкама, з якога незразумела, што ж канкрэтна парушана заяўнікамі. Сяргей Гоўша дадае, што яшчэ 29.01.2014г. у калектыўнай заяве ў гарвыканкам сем грамадзянаў прасілі чыноўнікаў канкрэтна ўказваць у сваіх рашэннях, які пункт закона, абзац ці яго частку (ці рашэння гарвыканкама) аб масавых мерапрыемствах парушылі грамадскія актывісты пры падачы заявы на правядзенне пікета, мітынга альбо шэсця.

– Але гарвыканкам паранейшаму забараняе нам масавыя мерапрыемствы, не ўказваючы, канкрэтна які пункт закона ці рашэння аб масавых мерапррыемствах мы парушылі. Таму ў сваёй заяве я яшчэ раз паўтараю гэтае пытанне: укажыце, што ж канкрэтна парушана мною, Вячаславам Болбатам і Рыгорам Грыкам у артыкуле 5 Закона РБ і п.4 рашэння Баранавіцкага гарвыканкама пры падачы заявы на правядзенне пікета 27 ліпеня. Мы ўпэўнены, што выканалі ўсе патрабаванні закона і рашэння гарвыканкама, – пракаментаваў Сяргей Гоўша.

*Глеб Лушынскі*

# БАРАНАВІЦКІ ГАРВЫКАНКАМ ПАДМАНВАЕ АДНОСНА ПРЫЧЫН ЗАБАРОНЫ ПІКЕТА

Праваабаронца Сяргей Гоўша атрымаў адказ з Баранавіцкага гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні Дзмітрыя Касцюкевіча на свой ліст, у якім прасіў паведаміць прычыну забароны пікету запланаванага на 27 ліпеня. Чыноўнік паведамляе, што пікет, прымеркаваны да дня прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці 27 ліпеня быў забаронены таму, што заяўнік не прадставіў своечасова копіі дамоў з гарадскім аддзелам унутраных спраў, паліклінікай і "Спецаўтабазай" па абслугоўванні запланаванага пікета.

– Гэта не так. Мы фактычна за месяц падалі заяву аб правядзенні пікета 27 ліпеня, а трошкі пазней падалі і копіі дамоў з гарадскімі дзяржаўнымі структурамі па абслугоўванні нашага мерапрыемства, бо патрэбен вялікі час, каб абысці ўсе неабходныя кабінеты і заключыць такія дамовы. Але мы своечасова за 15 дней да запланаванага пікета прадставілі ў гарвыканкам неабходныя дакументы, і ў гарадской улады не было законных падстаў, каб забараніць нам масавае мерапрыемства, – адзначыў грамадскі актывіст Сяргей Гоўша.

Праваабаронца мае намер скардзіцца ў Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт на дзеянні гарвыканкама.

*Глеб Лушынскі*

## Баранавіцкія актывісты віншуюць Мікалая Статкевіча з Днём народзінаў




Баранавіцкія праваабаронцы і грамадскія актывісты накіравалі палітвязню Мікалаю Статкевічу віншавальную тэлеграму з Днём народзінаў. Яны пажадалі экс-кандыдату ў прэзідэнты, які цяпер знаходзіцца ў Магілёўскай турме № 4, цярпення, моцы духа, веры і надзеі, каб ён найхутчэй і датэрмінова атрымаў доўгачаканую свабоду.

– Мы штогод 12 жніўня стараемся даслаць каляровую паштоўку ці тэлеграму Мікалаю Статкевічу і павіншаваць яго з Днём народзінаў. Лепш, канешне, адзначыць Дзень народзінаў дома, разам з сям'ёй і сябрамі. І мы верым, што хутка такі дзень абавязкова настане і спадзяемся, што палітвязень Мікалай Статкевіч, нягледзячы на ўсе цяжкасці і шматлікія выпрабаванні, датэрмінова будзе на волі, – адзначыў Віктар Сырыца.

Віншавальную тэлеграму падпісалі Сяргей Гоўша, Анжаліка Камбалава і ВіктарСырыца.

## Статкевіч Віктар Паўлавіч чакае вызвалення сына

Прадстаўнікі баранавіцкіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый 13 жніўня наведалі Статкевіча Віктара Паўлавіча і павіншавалі яго з 58-годдзем сына Мікалая, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме № 4. Цяпер Віктар Паўлавіч не вельмі добра сябе адчувае, у яго вялікі ціск і кружыцца галава, таму ён не змог прыняць гасцей у Дзень народзінаў сына.

spring96.org

## Фінансавання на беларускамоўны клас няма

Грамадская актывістка Таццяна Малашчанка атрымала ліст з гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама Дз. Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што ў дзяржаўнай установе адукацыі "Гімназія № 4 г. Баранавічы", куды залічана яе дачка Яся Малашчанка, мовай навучання зацверджана руская.

– У гэтым годзе Яся скончыла адзіны ў горадзе чацвёрты беларускамоўны клас СШ № 14,але ў сувязі са зменай месца жыхарства мы падалі заяву на навучанне ў пяты клас гімназіі № 4 і здалі іспыты. Дырэктар гімназіі Вадзім Шчарбакоў мяне адразу папярэдзіў, што гімназія цалкам рускамоўная,і Ясі прыйдзецца вучыцца па-руску, таму што фінансавых магчымасцяў для адкрыцця беларускамоўнага класа ў яго няма. Таму мы разам з бацькамі Алісы Філіпчык (другой вучаніцы беларускамоўнага класа СШ № 14) звярнуліся ў гарвыканкам, каб гарадскія чыноўнікі нам пасадзейнічалі ў фінансаванні беларускамоўнага навучання, – паведаміла Таццяна Малашчанка.

Яна адзначыла, што ў лісце з гарвыканкама паведамляецца, што з 23 па 25 жніўня 2014 года з бацькамі вучняў 5-х класаў гімназіі № 4 будуць праведзены сумоўі на прадмет выбару мовы навучання. Пры ўмове, што не менш за 24 вучні і іх законныя прадстаўнікі дадуць пісьмовую згоду на навучанне прадметаў на беларускай мове, такі клас будзе адкрыты.

Таццяна Малашчанка сказала, што Яся не ўяўляе, як яна будзе навучацца не па-беларуску, але яны добра разумеюць, як цяжка стварыць такі беларускамоўны клас, калі ідзе працэс скасавання беларускамоўнай адукацыі па ўсёй краіне.

Вітусь Свабодскі

ГРАМАДСТВА

## Прадпрымальніку адмаўляліся прадставіць кнігу скаргаў і прапаноў

Індывідуальны прадпрымальнік Мікалай Чарнавус 9 жніўня накіраваў заяву ў Міністэрства на падатках і зборах, каб яно абавязала начальніка Баранавіцкай падаткавай інспекцыі стварыць стэнд для кнігі скаргаў і прапаноў. У заяве адзначаецца, што 8 жніўня ў 15.30 Мікалай Чарнавус наведаў інспекцыю па падатках і зборах г. Баранавічы, але аддзел старэйшага дзяржаўнага падаткавага інспектара Брызінскай Е.В., які складаецца з шасці супрацоўнікаў, быў зачынены. Індывідуальны прадпрымальнік папрасіў у сакратара начальніка падаткавай інспекцыі кнігу скаргаў. Чыноўнікі накіроўвалі прадпрымальніка з кабінета ў кабінет, а кнігу так і не прадставілі. Толькі пасля таго, як Мікалай Чарнавус некалькі разоў патэлефанаваў у Міністэрства па падатках і зборах г. Мінска і Брэста, такая кніга яму была прадстаўлена.




– У Баранавіцкай падатковай інспекцыі кнігу скаргаў і прапаноў аказалася атрымаць цяжэй, чым заплаціць падаткі. Такая кніга павінна быць навідавоку, як гэта зроблена амаль ва ўсіх дзяржаўных установах, каб людзі не гублялі свой час і энергію на яе пошукі, – адзначыў Мікалай Чарнавус.

Грамадскі актывіст просіць Міністэрства абавязаць начальніка Баранавіцкай падаткавай інспекцыі стварыць стэнд для кнігі скаргаў і прапаноў, каб грамадзянам было зручна ўносіць свае заўвагі, прапановы і ініцыятывы. Таксама ён просіць пакараць старэйшага дзяржаўнага падатковага інспектара Брызінскую Е.В. за адсутнасць супрацоўнікаў яе аддзела на працоўным месцы.

Глеб Лушынскі

ПРАВЫ ПРАЦОЎНЫХ

## За параўнанне футбольнага поля з калгасным каментатара звольнілі з працы

Баранавіцкага каментатара Уладзіміра Майсюка, які амаль 20 гадоў каментаваў матчы мясцовай каманды, звольнілі з працы пасля таго, як ён скрытыкаваў стан футбольнага поля, на якім футбалісты атрымоўваюць бясконцыя траўмы. Такое стала магчымым пасля таго, як 9 ліпеня ў недзяржаўнай гарадской газеце "Intex-press" у артыкуле "Прафесія – каментатар" Уладзімір Майсюк вельмі негатыўна выказаўся аб працы стадыёна "Лакаматыў", адміністрацыя якога больш клапоціцца не аб стане футбольнага газона, а найперш, займаецца зборам грошай за арэндную плату. У гэтым артыкуле само футбольнае поле ў Баранавічах вопытны каментатар параўнаў з калгасным і паведаміў, што на баранавіцкім стадыёне адсутнічаюць рознабаковыя спаборніцтвы, няма развіцця дзяцячага спорту. Менавіна пасля публікацыі крытычных заўваг у недзяржаўнай газеце "Intex-press" кіраўніцтва клуба адхіліла Уладзіміра Майсюка ад каментатарскай працы.

Гэта ўжо другі выпадак у кар'еры Уладзіміра Майсюка, калі з-за каментароў у газеце "Intex-press" яго адхіляюць ад спраў. Пасля артыкула ў газеце ў 2011 годзе "Чыноўнікам неабходна павярнуцца тварам да футбола" Уладзімір Майсюк быў зволены з пасады інструктара стадыёна.

Цяпер Уладзімір Майсюк прысутнічае на стадыёне не як каментатар, а як звычайны заўзятар, які не можа жыць без футбола.

spring96.org

**"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы – звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў.
веснік ПРАВАБАРОНЧЫ